*Не пакідайце ж мовы нашай беларускай, каб не ўмёрлі!*
*Францішак БАГУШЭВІЧ*




# НАША СЛОВА

Штотыднёвая газета (Выходзіць з сакавіка 1990 г.) | **№14 (226)** | 5 красавіка 1995 г. | Кошт — 100 рублёў

## ПОСТУП ТЫДНЯ



○ **ПРЭЗІДЭНТ ЗША ПАВІНШАВАЎ АМЕРЫКАНСКІХ БЕЛАРУСАЎ З УГОДКАМІ АБВЯШЧЭННЯ БНР.** А ў нас у гэты дзень у Менску былі выпадкі, калі міліцыя затрымлівала людзей з бел-чырвона-белымі сцягамі.

○ ***27 САКАВІКА Ў МАДРЫДЗЕ Ў МУНІЦЫПАЛЬНЫМ ПАЛАЦЫ КАНГРЭСАЎ ПАЧАЛА СВАЮ РАБОТУ 93-Я КАНФЕРЭНЦЫЯ МІЖПАРЛАМЕНЦКАГА САЮЗА,*** *у якой упершыню прымае ўдзел афіцыйная дэлегацыя Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь. Яе ўзначальвае Старшыня Вярхоўнага Савета Мечыслаў Грыб. Беларуская дэлегацыя прадставіць у Мадрыдзе нацыянальны бела-чырвона-белы сцяг Рэспублікі Беларусь, які будзе знаходзіцца сярод іншых дзяржаўных сімвалаў краін — членаў Міжпарламенцкага саюза.*

○ **АНАЛІЗУЮЧЫ ПРЭЗІДЭНЦКУЮ ІНІЦЫЯТЫВУ ПА ПРАВЯДЗЕННІ РЭФЕРЭНДУМУ**, старшыня парламенцкай Камісіі па заканадаўству Дзмітрый Булахаў сказаў, што пытанні аб статусе рускай мовы і аб наданні Прэзідэнту права на роспуск парламента на рэферэндум 14 мая вынесці немагчыма. Прапанаваць гэтыя пытанні, паводле сцвярджэння сп.Булахава, Прэзідэнт мае права толькі Вярхоўнаму Савету новага склікання.

○ ***У ВЫНІКУ ТАЙНАГА ЭЛЕКТРОННАГА ГАЛАСАВАННЯ Ў ВЯРХОЎНЫМ САВЕЦЕ БЕЛАРУСІ НА ПАСАДУ СТАРШЫНІ КАНСТЫТУЦЫЙНАГА СУДА АБРАНЫ ВАЛЕРЫЙ ЦІХІНЯ.*** *Вынікі галасавання: «за» — 220, «супраць» — 2, «устрымаліся» — 3.*

○ **АДБЫЛАСЯ ПРЭС-КАНФЕРЭНЦЫЯ, НА ЯКОЙ ЖУРНАЛІСТЫ ЎБАЧЫЛІ НА СВАЕ ВОЧЫ «НЕВЯДОМАГА АЎТАРА» «ПІСЬМА ДА ПРЭЗІДЭНТА»** — Рэгіну Зімніцкую, выкладчыцу школы алімпійскага рэзерву з Плешчаніц. На пытанне: «Навошта звярталася да Прэзідэнта?» яна адказала: «Мне хацелася, каб ён задумаўся, неяк скарэкціраваў сваю палітыку адносна незалежнасці. Але зараз мне відавочна, што ён убачыў у маім лісце толькі тое, што хацеў бачыць. Па-другое, я хацела, каб прачыталі нашы простыя людзі, якія дагэтуль думаюць, што Прэзідэнт аб іх клапоціцца, каб яны задумаліся, хто яны на гэтай зямлі і што ад іх залежыць. Прэзідэнт назваў фальшыўкай гісторыю майго радаводу. Усе ў маёй вёсцы ведаюць, што ў пісьме кожнае слова праўда. Таму я лічу, што гэта абраза. Таксама і наконт таго, што нібыта гэта пісьмо аплачана доларамі. Яно аплачана горкім вопытам маіх бацькоў, кнігамі Уладзіміра Караткевіча і Васіля Быкава...»

○ ***ЧАРГОВАЕ ПАСЯДЖЭННЕ ВЯРХОЎНАГА САВЕТА РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ АДБУДЗЕЦЦА 10 КРАСАВІКА.*** *На ім мяркуецца разгледзець прапанову Прэзідэнта правесці разам з выбарамі ў новы Вярхоўны Савет рэферэндум па чатырох пытаннях, па якіх Прэзідэнт спадзяецца атрымаць падтрымку 80 працэнтаў насельніцтва. А колькі працэнтаў насельніцтва падтрымлівае самога Прэзідэнта?*

○ **АДБЫЛОСЯ АДКРЫЦЦЁ НОВАГА БУДЫНКА ПАСОЛЬСТВА РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ У ФРАНЦЫІ.** На адкрыцці прысутнічаў міністр замежных спраў Беларусі У.Сянько.

# *Бог дае жыццё — Бог яго адбірае! Бог даў нам мову!*

## Не стварайце канфрантацыі вакол моўнага пытання!

**Прэзідэнту Рэспублікі Беларусь А.Лукашэнку,**
**Старшыні Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь М.Грыбу**

### Шаноўны спадар Прэзідэнт!
### Шаноўны спадар Старшыня!

Мінула пяць гадоў з таго часу, калі быў прыняты Закон аб мовах у Беларусі. Ён даў магчымасць беларускаму народу вярнуцца да сваёй роднай мовы. У нас было вялікае спадзяванне, што пры дапамозе кіруючых улад рэспублікі наша мова паступова акрыяе, пачне ўжывацца ў грамадскім жыцці і пашырацца ў краіне. Аднак гэтага не здарылася, бо першыя крокі нацыянальна-моўнага адраджэння ў нашай дзяржаве далёка не ўсімі ўспрымаюцца з неабходным разуменнем, асабліва — уладнымі структурамі краіны. Шляхам фальсіфікацыі гісторыі Беларусі, наўмысных апытанняў ставіцца пад сумнеў само існаванне беларускай мовы, нацыі і дзяржавы. Праз сродкі масавай інфармацыі беларускаму люду пэўныя асобы даводзяць, што беларусы самі не хочуць ведаць роднай мовы і выракаюцца яе, што беларускім школам гвалтоўна навязваецца беларуская мова і г.д. Але гэта не так. Афіцыйны перапіс 1989 года паказаў, што 80 працэнтаў беларусаў беларускую мову лічаць для сябе роднай. Ці не лепшы гэта доказ таго, што беларусы шануюць сваю мову? Дык чаму ж тады афіцыйныя ўлады, у тым ліку і Вы, спадар Прэзідэнт, ставіце пытанне аб правядзенні рэферэндуму, каб увесці ў дзяржаве двухмоўе? Няўжо Вы не ведаеце, што гэта прывядзе да новага наступу на роднае слова? Няўжо Вы хочаце новай канфрантацыі і абвастрэння палітычнай сітуацыі ў грамадстве?

Мы — не праціўнікі расійскай мовы, не лічым яе далёкай і непажаданай для моўнай практыкі беларусаў, але мы, пры роўных правах рускай і іншых моў на Беларусі, робім усё магчымае, каб не даць загінуць роднаму слову, культуры, нашаму народу.

Роднае слова, хоць 5 гадоў назад і прыняты Закон аб мовах, і цяпер знаходзіцца ў загане, яго ўжыванне ў дзяржаўных структурах байкатуецца. У Беларусі няма ніводнай вышэйшай навучальнай установы, у якой моладзь магла б атрымаць адукацыю на роднай мове.

Мы патрабуем ад Вас, шаноўныя кіраўнікі нашай дзяржавы, не ствараць канфрантацыі ў грамадстве вакол моўнага пытання. Мова народа — наш самы вялікі скарб, які ствараўся многімі пакаленнямі беларусаў на працягу стагоддзяў і належыць будучым пакаленням, і яе лёс не маюць права вырашыць бюлетэнямі толькі тыя, што жывуць сёння.

Мы звяртаемся да ўсіх грамадзян нашай роднай Беларусі з заклікам спрыяць нацыянальна-моўнаму адраджэнню нашай Бацькаўшчыны, паслядоўна выконваць Закон аб мовах у Беларусі. Няхай роднае слова будзе жада-ным у кожным калектыве, у кожнай дзяржаўнай установе, у кожнай сям'і.

**Дэлегаты канферэнцыі Маладзечанскай філіі ТБМ імя Ф.Скарыны.**




*Рис. М. ВАЛИАХМЕТОВА.*

Газета «Известия» (Масква).

**22 сакавіка г.г. адбылася прэс-канферэнцыя Старшыні Канстытуцыйнага суда сп.В.Ціхіні.**

**У адказ на пытанне, ці не супярэчыць пункт прапанаванага Прэзідэнтам рэферэндуму аб дзяржаўнай сімволіцы дзяржаўнаму заканадаўству, сп.Ціхіня спаслаўся на 3-ю частку 3-га артыкула дзеючага Закона аб рэферэндуме, у якой гаворыцца, што на рэспубліканскі рэферэндум не выносяцца пытанні, якія парушаюць неад'емныя правы народа Беларусі на нацыянальную дзяржаўнасць і суверэнітэт, на гарантаванае існаванне беларускай нацыянальнай культуры і мовы, ды пытанні, якія могуць мець вынікам парушэнне адзінства тэрыторыі краіны.**

*Жыццё Таварыства*

## Абмеркавалі Статут і дамовіліся пра чарговы з'езд ТБМ

9 сакавіка г.г. адбылося пасяджэнне Рэспубліканскай Рады ТБМ. Разгледжаны пытанні:

1. Аб новай рэдакцыі Статута ТБМ.

2. Аб чарговым з'ездзе ТБМ.

З кароткай інфармацыяй па першаму пытанню выступіў старшыня ТБМ Ніл Гілевіч, які паведаміў прысутным, што ў адпаведнасці з прынятым Вярхоўным Саветам Рэспублікі Беларусь у кастрычніку мінулага года Законам аб грамадскіх аб'яднаннях у Міністэрстве юстыцыі РБ праводзіцца перарэгістрацыя грамадскіх аб'яднанняў. У сувязі з гэтым Сакратарыят ТБМ падрыхтаваў праект новай рэдакцыі Статута ТБМ з улікам патрабаванняў згаданага Закону, які і выносіцца на разгляд.

Асноўная задача абмеркавання праекта Статута зводзілася, па-першае, да таго, каб палепшыць яго структуру, удакладніць фармуліроўку некаторых палажэнняў, а па-другое, каб прывесці Статут у адпаведнасць з нашым сённяшнім заканадаўствам, паколькі прынята новая, першая ў нашай незалежнай дзяржаве, Канстытуцыя і Закон аб грамадскіх арганізацыях. Памяняліся і назвы шматлікіх дзяржаўных і грамадскіх установ, міністэрстваў Рэспублікі Беларусь, што таксама патрабуе ўмяшання ў тэкст Статута.

Дамовіліся, што Статут павінен больш шырока адлюстроўваць задачы ТБМ, а менавіта: не толькі выхоўваць павагу да мовы, пашыраць сферу яе ўжытку, але і выхоўваць нацыянальную самасвядомасць, гістарычную памяць, паколькі ўсё гэта служыць працэсу станаўлення нашай незалежнасці, а астатняе, дамовіліся, будзе вырашана на чарговым з'ездзе ТБМ.

На пасяджэнні было закранута пытанне аб паўнамоцтвах Рэспубліканскай Рады ТБМ у адносінах да галоўнага рэдактара выдання ТБМ. Было пацверджана, што галоўнага рэдактара зацвярджае з'езд, а ў прамежку паміж з'ездамі, у выпадку, калі падае ў адстаўку адзін рэдактар і на яго месца прыходзіць другі, — назначае Рэспубліканская Рада. Бо «выконваючы абавязкі» не можа знаходзіцца ў «падвешаным стане» працяглы час. Гэта не азначае аднак фармальнае падпарадкаванне Радзе газеты і яе рэдактара, звужэнне іх правоў. На завяршэнне гаворкі старшыня ТБМ Ніл Гілевіч адзначыў, што прынцыпова ў Статуце нічога не мяняецца, паколькі не мяняюцца задачы арганізацыі, якая была, ёсць і застаецца культурна-асветніцкай.

У абмеркаванні праекта Статута, акрамя сяброў Рады, прынялі ўдзел прадстаўнікі арганізацый-заснавальнікаў ТБМ, старшыня рэвізійнай камісіі і некаторыя актывісты ТБМ. Слушныя прапановы і заўвагі выказалі сябры Рады Р.Гарэцкі, Ю.Хадыка, А.Глушко, Я.Стапановіч, С.Запрудскі, З.Санько, Э.Ялугін, прадстаўнікі арганізацый-заснавальнікаў ТБМ і інш. З улікам гэтых, а таксама дасланых іншагароднімі сябрамі Рады, якія не змаглі прысутнічаць на пасяджэнні, сакратарыяту ТБМ даручана падрыхтаваць канчатковы тэкст Статута для перарэгістрацыі ТБМ у Міністэрстве юстыцыі РБ. Па гэтаму пытанню было прынята рашэнне: а) Зацвердзіць Статут ТБМ у новай рэдакцыі і дзеючую ад 1990 г. эмблему — сімволіку ТБМ; б) Прасіць Міністэрства юстыцыі РБ прыняць дакументы для разгляду рэгістрацыі ТБМ; в) Пасля зацвярджэння ў Міністэрстве юстыцыі Статута ТБМ у новай рэдакцыі прасіць рэдакцыю газеты «Наша слова» надрукаваць яго на сваіх старонках.

Па другому пытанню было прынята рашэнне правесці чарговы, IV з'езд ТБМ у пачатку чэрвеня гэтага года. Падрабязная інфармацыя па гэтаму пытанню будзе змешчана ў адным з наступных нумароў газеты.

**Наш карэспандэнт.**



На здымку: падпісанне дакументаў. Фота Я.КАЗЮЛІ, Белінфарм.

Адбыліся Дні культуры Украіны ў Рэспубліцы Беларусь. Міністр культуры і друку Рэспублікі Беларусь Анатоль Бутэвіч і міністр культуры Украіны Мікалай Якавіна падпісалі пагадненне аб супрацоўніцтве

*Рупліўцы*

# Ермаловіча

чынку, хоць трэсні, не распазнаў». Гэта таксама падахвоціла да тэатральнай справы.

Сямікласнікам сам напісаў невялічкую п'есу. Яе нават паставілі на школьнай сцэне. Назва ўжо забылася, але помню, што пра шпіёнаў. Тады ж была шпіёнаманія. Вяскоўцаў рэгулярна прымушалі прачэсваць лес. Не помню, праўда, каб хоць аднаго якога шпіёна злавілі...

Уразіў мяне вельмі спектакль купалаўцаў па п'есе Крапівы «Партызаны». Паглядзеў яго дзякуючы брату Міколу, які спецыяльна на яго звазіў мяне ў Менск.

Мусіць, усе гэтыя акалічнасці паўплывалі абуджэнню ў маім сэрцы любові да тэатра.

**— Ваша працоўная дзейнасць пачыналася са сцэны?**

— Чатыры гады пасля заканчэння інстытута я адпрацаваў у Пінскім тэатры. Выконваў ролі характарныя, камедыйнага плану. Але ў тым тэатры давялося сыграць і Пётру з «Апошніх» Горкага. Роля драматычная, трагедыйная. Атрымалася. Па ліквідацыі Пінскай вобласці трупа перабралася ў Магілёў, яшчэ два гады быў акцёрам, а ў 1956-м запрасілі на працу ў Магілёўскае культасветвучылішча, дзе да 1985 года выкладаў рэжысуру і адначасова, каб лепш пазнаць для сябе самадзейнасць, стварыў тэатральны калектыў на шоўкавай фабрыцы, які хутка стаў народным. Узначальваў трупу Краснапольскага тэатра — Аляксей Пысін папрасіў. Цяпер вось працую ў Бялыніцкім тэатры юнага гледача.

Свой першы спектакль як рэжысёр, я паставіў у культасветвучылішчы па п'есе Я.Коласа «Забастоўшчыкі». Аўсіх зрабіў больш за сотню. Больш за ўсё запомніліся спектаклі малавядомых драматургаў, першыя пастаноўкі. Іван Ісачанка напісаў быў п'есу «Мурын Бор» — пра вядомае Крычаўскае паўстанне. Ён здаў яе ў тэатр, але п'есу не ставілі. Я зацікавіўся творам, разам з аўтарам зрабілі яшчэ адзін варыянт — пайшла. Потым паставіў спектаклі яшчэ па дзвюх п'есах І.Ісачанкі. З «Гаўрошамі Брэсцкай крэпасці» Алеся Махнача адбывалася тое ж самае. Першая пастаноўка гэтага спектакля належыць мне. Алесю Петрашкевічу прафесійны тэатр адбіў быў ахвоту нават пісаць. Патрапіў я на яго п'есу «Адкуль грэх, адтуль і збавенне». Аўтар для мяне незнаёмы, п'еса спадабалася. Праз Алеся Махнача запрасіў Петрашкевіча на прэм'ерны паказ яго спектакля, які паставілі навучэнцы культасветвучылішча. Прыехаў і адразу да мяне з пытаннямі: «Дзе ўзялі п'есу?» «У Доме творчасці», — адказваю... «А які варыянт? Я ж п'есу гэту перапісваў шмат разоў. «Купалаўцам» усё не падыходзіць. Аскоміну набіла яна мне».

Пасля спектакля, а прайшоў ён удала, Алеся Петрашкевіча паклікалі на сцэну. І там ён пакляўся, што стане драматургам.

Вось і нядаўна бялыніцкія акцёры паставілі новую п'есу Алеся Петрашкевіча «Дагарэла свечачка». Першымі.

**— Кажуць, што ў Магілёве існуе тэатр Валянціна Ермаловіча?..**

— Не, не зусім так. У Магілёўскай гарадской радзе ТБМ я разам з выкладчыцай ліцэя Таццянай Арасланавай адказваю за прапагандысцкую работу. А тэатра, па майму разуменню, самы лепшы агітатар і прапагандыст. Паставілі ўжо спектакль па апавяданню В.Быкава «На Чырвоных Лядах», цяпер рыхтуем п'есу «Пан-міністр» Францішка Аляхновіча. Дарэчы, спектакль па апавяданню В.Быкава пакажам у Доме літаратара. Атрымалі ўжо запрашэнне.

**— Вы ўвесь час працуеце на нацыянальнае адраджэнне. Гэта што — патрэба душы?**

— Так, патрэба душы. Я меў шчасцейка нарадзіцца на зямлі крывічоў. У ваколіцах мае роднае вёскі шмат курганоў, людзі апавядаюць мноства цікавых легенд. У Навасёлках жыў Казімір Кастравіцкі — актыўны ўдзельнік паўстання Кастуся Каліноўскага. Яго сын, знакаміты Карусь Каганец, хоць і нарадзіўся ў Сібіры, не выракся матчынага слова, стаў беларускім пісьменнікам, і, дарэчы, адным з заснавальнікаў Беларускай сацыялістычнай грамады. Гэты факт паўплываў вельмі нават на маю партыйную арыентацыю, і я з'яўляюся сябрам БСДГ.

Малым я бачыў на свае вочы хатку Каруся Каганца. Пахаваны ён на нашых могілках. Мае дзядзькі, бацькаў і матулін браты, закончылі Нясвіжскую настаўніцкую семінарыю, заўсёды размаўлялі толькі па-беларуску, дый самі бацькі таксама заўсёды карысталіся беларускім словам.

Вялікі ўплыў на мяне зрабіў Канстанцін Міхайлавіч Саннікаў. Старэйшы брат Мікола з малых год маіх заразіў мяне беларушчынай і ўвесь час падахвочваў да гэтае нялёгкай і высакароднай справы. Не магу не прыгадаць і Аляксея Пысіна. Яго бескарыслівае служэнне Беларусі было для мяне яркім прыкладам, імпульсам для асабістай адданасці адраджэнскай рабоце.

Таму ўваходжанне ў «Мартыралог Беларусі», ТБМ імя Ф.Скарыны, БСДГ, падтрымка ідэй БНФ «Адраджэньне» для мяне сталася заканамерным, усвядомленым крокам.

**— Вучняў сваіх вы таксама заразілі беларушчынай?**

— Сапраўдны работнік нацыянальнай культуры абавязаны быць патрыётам Радзімы. Без гэтага нельга. Іначай страчваецца сэнс усяе тае работы. А беларуская мова дазваляе чалавеку ў поўнай меры раскрыць яго талент. Я згадваю аднаго свайго вучня, Міколу Макарцова. Памятаю яго на ўступных экзаменах. Вясковы хлопец, скаваны нейкі. Чытае вершы па-расійску. Не ведаю, як быць. Пытаюся: «А па-беларуску Вы можаце што-небудзь прачытаць?» «Магу», — адказвае. І яго быццам святой вадой акрапілі. Во што значыць родная мова! Мікола стаў збіральнікам фальклору, стварыў ансамбль «Жалейка», завочна вучыцца ў аспірантуры АН Беларусі.

**— Ці добра Вам працуецца ў Бялыніцкім тэатры?**

— Добра, бо акцёры тут выдатныя. За кароткі час мы зрабілі чатыры прэм'еры па даволі-такі складаных п'есах. Цяпер рыхтуем «Паўлінку» Я.Купалы. Наперадзе шмат задум і, дай Божа, каб яны спраўдзіліся.

**З юбілярам гутарыў журналіст Міхась КАРПЕЧАНКА.**

г.Бялынічы.

*Пытанне — адказ*

# Сп.Шарамет сапраўды пакрыўдзіўся, але мовы не абражаў

*Паважаная рэдакцыя «Нашага слова»! 5 і 6 лютага г.г. у тэлеперадачы «Праспект» каментатар Шарамет паведаміў, што на пытанне карэспандэнта газеты (не сказана якой) акадэмік Гарэцкі сказаў, што беларуская мова не мае перспектывы. Значыцца, як сцвярджае Шарамет, будучае Беларусі бачыцца вельмі неакрэслена. Ці адпавядае гэта сапраўднасці? Няўжо Гарэцкі, прэзідэнт Згуртавання беларусаў свету «Бацькаўшчына», мог так сказаць? Ці ёсць другі Гарэцкі? Хацелася б глыбей і дакладней ведаць гэты факт.*

**В.П.ЖУК.**

в.Будслаў, Мядзельскі р-н.

**Ад рэдакцыі**. Інтэрв'ю акадэміка Акадэміі навук Беларусі Радзіма Гаўрылавіча Гарэцкага пад назвай «За абразу Беларусі трэба караць» было апублікавана ў «Нашым слове» 4 студзеня г.г. (№ 1). У ім былі закрануты пытанні гістарычнага лёсу беларускай мовы, яе дзяржаўнага статуса, спецыфікі і распрацаванасці, выкарыстання ў якасці мовы навукі і мовы сродкаў масавай інфармацыі (друк, радыё, тэлебачанне), адкуль яе пачынаюць актыўна выцясняць з благаслаўлення Прэзідэнта Аляксандра Лукашэнкі, якому карціць захаваць рускамоўнай інфармацыйную прастору на Беларусі.

Радзім Гаўрылавіч, у якасці прыкладу, расказаў аб сваёй сутычцы з вядучым праграмы «Праспект» сп.Шараметам, што працуе ў эфіры выключна на расійскай мове і, на думку акадэміка, нігілістычна ставіцца да беларускай мовы. Сп.Шарамет пакрыўдзіўся, і ў чарговай перадачы «Праспект» адказаў Радзіму Гарэцкаму на яго закід. Аднак ні акадэмік Гарэцкі, ні вядучы праграмы «Праспект» не гаварылі таго, аб чым піша спадар Жук. Раім уважліва азнаёміцца са зместам інтэрв'ю, тады ўсё стане зразумелым.

*Уражанні*

# Каліласачка

У нас усе ў сям'і, за невялічкім выключэннем, размаўляюць па-расійску. А гэтым «невялічкім выключэннем» стала мая пяцігадовая ўнучка Ганначка. У апошні час з кожным вяртаннем з дзіцячага садка ў яе лексіконе з'яўляецца ўсё больш беларускіх слоў. Вядома, як усё непрывычнае, ды яшчэ вымаўленае дзіцём, тое-сёе слоўца выклікае часам у дарослых усмешку, на што дзяўчынка нават крыўдзіцца.

Нядаўна, напрыклад, сяджу ўвечары за газетамі. Жанчыны завіхаліся на кухні. Раптам дзверы рыпнулі і да майго слыху данесліся дзіцячыя ўсхліпы. Гляджу, у дзвярах стаіць унучка.

— Што здарылася? — пытаю ўстрывожаны.

— Мама пакрыўдзіла, — уткнуўшыся носам мне ў грудзі, прашаптала дзяўчынка.

— Чым?

— Абзываецца,

— Як?

— Каліласачкай.

— А што гэта значыць? — на самай справе мала што разумеючы, запытаў я.

— Я да яе звярнулася: «Мама, дай мне, калі ласка, вадзіцы». А яна нечаму засмяялася і кажа: «Ах ты мая «каліласачка»! — збянтэжана растлумачыла дзяўчынка.

Толькі цяпер да мяне дайшло, адкуль гэтае нелітаратурнае, але такое лагоднае і, на мой погляд, прыгожае слоўца.

— Дык чаго тут крыўдаваць, Ганулька? — узяў я на рукі ўнучку. — Наадварот, лічы, што табе пашанцавала. Ты «адхапіла» першую ў нашай маладой, суверэннай дзяржаве новую нацыянальную мянушку, ды яшчэ і такую прыгожую!

Цяжка меркаваць, як успрыняла дзяўчынка сваімі пяцігадовымі звілінамі маё жартоўнае тлумачэнне з яўна «нацыяналістычнай» афарбоўкай. Аднак тут жа супакоілася. Вачаняты заблішчэлі дзіцячай пяшчотай. У апошні раз шмыгнула носам, злезла з рук і з ганарлівым выглядам пайшла на кухню.

**Уладзімір ХРЫСЦЮК-дзед.**

г.Брэст.

# «Магілёўская імперыя»

Гэта — не сепаратысцкае ўтварэнне на ўсходзе Беларусі. Гэта — назва фестывалю аўтарскай песні, які адбудзецца ў горадзе, абраным калісьці апошнім імператарам аднаго з апошніх імперый у якасці стаўкі. Гэтую падзею мінулага арганізатары фестывалю і зрабілі падставай да пераймання імперскіх правоў і да абвяшчэння Магілёва на кароткі час фестывалю сталіцай імперыі беларускай музыкі, паэзіі і песні.

Не маючы сапраўдных імперскіх памкненняў, арганізатары фестывалю вырашылі не падзяляць яго ўдзельнікаў паводле партыйных, канфесійных ці моўных прызнакаў і запрасілі да ўдзелу як беларускіх, так і ўкраінскіх, польскіх, літоўскіх і расійскіх выканаўцаў.

Тым, хто жадае стаць удзельнікам фестывалю, дастаткова прыйсці, прыехаць, прыляцець у Магілёў у дні 28—30 красавіка г.г. Пакінуць свой след у гісторыі «Магілёўскай імперыі» зможа той, хто здольны праявіць сябе ў жанры аўтарскай песні, незалежна ад таго, паэт ён, кампазітар ці толькі выканаўца. Галоўнае — талент.

Прагноз падзей у «імперыі»:

28 красавіка, пятніца — Адкрыццё фестывалю, канцэрт гасцей;

29 красавіка, субота. Уранні і ўдзень — удзел у творчых майстэрнях — вызначэнне складу ўдзельнікаў фестывальнага канцэрта.(Прэтэндэнты! Акрамя інструментаў, майце тэксты сваіх песень.) Увечары — канцэрт удзельнікаў;

30 красавіка, нядзеля. Гала-канцэрт.

Будуць і іншыя падзеі, адпаведныя традыцыям фестываляў аўтарскай песні, — дасведчаныя зразумеюць.

Тэлефон «імперыялістаў» у Магілёве: (0-222) 25-64-73; ды 22-54-19.

Варта дадаць, што 24—25 красавіка «галоўныя імперыялісты» мяркуюць паўдзельнічаць у бардаўска-турыстычнай акцыі ў раёне Аршанскага чыгуначнага вузла, прысвечанай 4-м угодкам яго блакады рабочымі, выступленні якіх знішчылі ўрэшце сапраўдную Імперыю. Далучыцца да акцыі могуць усе аматары пасядзець з гітарай ля вогнішча ў асяроддзі беларускіх нацыяналістаў. Пачатак акцыі — 24 красавіка а 12 гадзіне ля будынка Аршанскага чыгуначнага вакзала. Арыенцір — выява герба Оршы (крыж з маладзіком). Тэлефон для даведак у Оршы: 2-00-74. Па гэтым нумары можна званіць пасля 16 красавіка ўранні і ўвечары. Вам датлумачаць стратэгію і тактыку акцый «Магілёўская імперыя» ды «Аршанская вясна». Арганізатары папярэджваюць: гатэляў для ўдзельнікаў не прадбачыцца.

**Л.М.**

Меркаванні

# «Адток мазгоў» ці далучэнне да еўрапейскай цывілізацыі?



*Усё большая колькасць грамадзян Беларусі пакідае краіну, каб атрымаць адукацыю за мяжой. Для адных гэта сведчанне аб ператварэнні краіны ў «рынак мазгоў», для другіх — аб пачатку інтэграцыі ў сусветную супольнасць.*

*Свой погляд на праблему павелічэння колькасці беларускіх студэнтаў за мяжой мае і дырэктар Беларускага гуманітарнага культурна-адукацыйнага цэнтра і ліцэя Уладзімір Колас.*

— Год таму ў наш цэнтр прыйшоў ліст з прапановай арганізаваць конкурс сярод навучэнцаў на паступленне ў адзін з коледжаў сістэмы United world colleges. З гэтага ліста, атрыманага намі дзякуючы асабістым кантактам стваральніка нашага Скарынаўскага цэнтра прафесара Адама Мальдзіса з польскім прафесарам Паўлам Чартарыйскім, кіраўніком каардынацыйнага камітэта UWC, і пачалося маё знаёмства з гэтай адукацыйнай сістэмай.

**— А што яна з сябе ўяўляе?**

— Коледжы сусветнай супольнасці — United world colleges — гэта міжнародная адукацыйная сістэма, мэта якой спрыяць усталяванню міра і паразумення паміж народамі праз адукацыю. У яе ўваходзяць дзевяць коледжаў і пятнаццаць нацыянальных камітэтаў у розных краінах свету. Штаб-кватэра UWC знаходзіцца ў Лондане. А самі коледжы — гэта раскіданыя па ўсім свеце навучальныя ўстановы, дзе вучацца прадстаўнікі ўсіх рас, нацый, людзі розных перакананняў. І менавіта гэтая непадобнасць узаемна ўзбагачае кожнага навучэнца праз пазнанне іншых народаў і культур.

Два коледжы — у Сінгапуры і ў Свазілэндзе — даюць поўную сярэднюю адукацыю студэнтам ва ўзросце ад 11 да 19 гадоў. Коледжы ў Італіі, Канадзе, Вялікай Брытаніі, ЗША ды Ганконгу маюць двухгадовую праграму навучання пасля сярэдняй школы і даюць вышэйшую сярэднюю адукацыю — ступень міжнароднага бакалаўрыята — навучэнцам ва ўзросце ад 16 да 19 гадоў. Трохгадовы коледж у Венесуэле мае сельскагаспадарчую спецыялізацыю і прымае студэнтаў ад 18 да 21 года. І, нарэшце, нарвежскі коледж Чырвонага Крыжа спецыялізуецца ў сферы медыцыны. Адна былая навучэнка нашага ліцэя ўжо вучыцца ў Адрыятычным коледжы ў Італіі, а на гэты год мы атрымалі заяўкі з Паўночнага коледжа ў Нарвегіі.

Студэнты праходзяць камбінаваную праграму акадэмічнага навучання, якая адпавядае вышэйшым сусветным стандартам ды, акрамя таго, працуюць у мясцовых муніцыпальных установах, напрыклад у дамах для састарэлых, што выхоўвае ў іх пачуцці спагады, адказнасці ды ўзаемазалежнасці.

Студэнты, акрамя традыцыйных дысцыплін, вывучаюць родную мову, адну з замежных, займаюцца музыкай ці мастацтвам, праходзяць курс тэорыі ведаў. Акрамя таго, яны займаюцца па праграмах творчых і сацыяльнай дапамогі.

Дыпломы бакалаўраў, якія атрымліваюць выпускнікі коледжаў UWC, сертыфікаваны на міжнародным узроўні і прызнаныя па ўсім свеце, больш чым у 400 навучальных установах. А пачынаючы з 1969 года выпускнікі коледжаў паступалі больш чым у 650 універсітэтаў 60 краін свету.

**— Вы гаварылі, што ў адным з коледжаў ужо вучыцца наша суайчынніца.**

— Так. Як я ўжо казаў, у мінулым годзе мы правялі конкурс паводле ўмоў Каардынацыйнага камітэта UWC. І яго пераможцай стала наша выпускніца Алена Новік, якая тады скончыла чатыры курсы ліцэя і паступіла на аддзяленне міжнародных зносін БДУ. З мінулага года яна вучыцца ў Італіі, у Адрыятычным коледжы, а скончыўшы яго, працягне сваю адукацыю ў БДУ ці, калі знойдзе спонсараў альбо нейкую фундацыю, у адным з універсітэтаў Еўропы. І я ўпэўнены: вярнуўшыся сюды, яна зробіць для Беларусі шмат карыснага.

**— Сёння на Захадзе існуе мноства адукацыйных цэнтраў, якія прымаюць здольных студэнтаў з небагатых краін і нават аплочваюць іх навучанне. Чаму Вы паслалі сваіх студэнтаў менавіта ў коледжы сусветнай супольнасці?**

— У сістэме UWC мяне прывабіў такі аспект, як цікаўнасць гэтых коледжаў да нацыянальных асаблівасцей, нацыянальнай адметнасці прадстаўнікоў кожнай з краін. Існуе ўмова, згодна з якой кожны навучэнец коледжа гэтай сістэмы павінен быць прадстаўніком сваёй краіны, гэта значыць быць у стане расказаць іншым аб яе гісторыі, нацыянальных і культурных традыцыях. Больш таго, у праграме гэтага міжнароднага бакалаўрыята закладзена вывучэнне родных моў усіх навучэнцаў. Праўда, у італьянскім коледжы вучыцца толькі адна наша студэнтка і таму ёй даводзіцца засвойваць праграму вывучэння мовы самастойна. Але ўжо албанцы, якіх там пяцёра, маюць уласнага выкладчыка роднай мовы. Таму аб нейкім нацыянальным нігілізме ў межах гэтай адукацыйнай сістэмы гаварыць не выпадае. Мову сваіх народаў яна дае магчымасць вывучаць прадстаўнікам некалькіх дзесяткаў нацыянальнасцей з краін усяго свету. Да таго ж існуе ўзроставы цэнз для абітурыентаў сістэмы UWC, якія на час паступлення не павінны быць маладзейшымі за 16 гадоў. А ў такім узросце чалавек ужо мае пэўную нацыянальную і культурную арыентацыю, ён адчувае сябе прадстаўніком сваёй краіны і свайго народа, чаго якраз і патрабуюць правілы коледжа. Бо коледж з'яўляецца не проста адукацыйнай установай, а мадэллю сусветнай супольнасці, у якой жывуць і працуюць разам прадстаўнікі розных краін, народаў, рэлігій і культур. І кожны з іх, захоўваючы сваю адметнасць, знаёміцца з іншымі і вучыцца існаваць у свеце непадобных да яго людзей. І я думаю, што нашай краіне, нашаму грамадству будзе вельмі карысна мець такіх людзей — не толькі нацыянальна арыентаваных, але і добра адукаваных ды знаёмых з жыццём іншых народаў. Да таго ж чалавек, які атрымае адукацыю іншага, вышэйшага ўзроўню, будзе лепш арыентавацца ў жыцці грамадства як тут, так і за мяжой. Ён зможа стаць пасярэднікам у кантактах паміж двума грамадствамі, дзвюма краінамі і, у рэшце рэшт, спрыяць інтэграцыі сваёй радзімы ў свет, ад якога мы дагэтуль існуем у пэўнай ізаляцыі.

**— Мне даводзілася чуць наступнае: запрашэнне да навучання за мяжой — не што іншае, як «вываз мазгоў»...**

— Тое, што некалькі асоб з той мізэрнай колькасці, якая паехала вучыцца на Захад, захацелі там застацца, у нас называюць «адтокам мазгоў». А што робіць дагэтуль мноства навучальных установаў Беларусі, даючы школьнікам і студэнтам адукацыю па-расійску? Гэта не што іншае, як масавая падрыхтоўка кадраў для суседняй дзяржавы за наш кошт. Да таго ж менавіта гэтыя людзі потым робяцца актыўнымі прапагандыстамі ідэй двухмоўя, неабходнасці абароны нашым урадам расійскіх нацыянальных інтарэсаў ды, урэшце, уключэння нашага краю ў склад іншай дзяржавы. Гэта ўжо не «адток мазгоў», а нешта большае. А калі гаварыць аб тым, што нехта знаходзіць сваю новую радзіму на Захадзе, дык ці не варта нагадаць, што менавіта нашае грамадства і наша родная сістэма адукацыі выхавалі яго такім — чалавекам, які не помніць сваёй радзімы і свайго народа. Таму сёння адукацыя нашых дзяцей за мяжой — гэта шанц, ад якога нельга адмаўляцца. Іншая рэч тое, што пасылаць туды варта людзей з ужо акрэсленай моўнай, культурнай і нацыянальнай арыентацыяй, тых, якія вернуцца на радзіму і будуць працаваць на яе карысць.

Спрадвеку традыцыйным для Беларусі было атрыманне вышэйшай адукацыі за мяжой. І яшчэ Скарына даказаў, што карысць з гэтага ёсць. Бо наўрад ці ён зрабіў бы тое, што зрабіў, застаўшыся ў Полацку. Яго, як асобу, сфармавалі Кракаў і Падуя, ён, жывучы ў Празе, трымаў у руках Біблію, выдадзеную Гусам... І карысць з дзейнасці Скарыны, які «непатрыятычна» з'ехаў з Полацка, меў увесь наш народ.

Мы не можам існаваць ва ўмовах ізаляцыі. Гэта датычыць і справы навучання. Бо сістэма адукацыі, якую мы атрымалі ў спадчыну ад СССР, не вытрымлівае ніякай крытыкі. Але мы дагэтуль карыстаемся ёй, рыхтуючы, па сутнасці, кадры для вайскова-прамысловага комплексу дзяржавы, якая перастала існаваць. Робяцца спробы рэфармавання нашай сістэмы школьніцтва, але сёння атрымаць адукацыю сапраўды высокага ўзроўню магчыма ці не выключна за мяжой. А «адток мазгоў» так ці інакш працягваецца. Найбольш таленавітыя выпускнікі нават нашай — сярэдняй і вышэйшай — школы імкнуцца з'ехаць вучыцца ці працаваць за мяжу. Гэта кепска, але супрацьстаяць гэтаму мы не ў стане аднымі толькі забаронамі ці заклікамі да патрыятызму. Гэты працэс не спыніцца да часу, пакуль Беларусь не перастане быць адной з савецкіх рэспублік і не ператворыцца ў адну з краін сусветнай супольнасці, роўную сярод роўных.

**— Гэта значыць, што ваш ліцэй і надалей будзе пасылаць сваіх выпускнікоў вучыцца на Захад?**

— Так, конкурс будзе праводзіцца і ў гэтым годзе, і ўдзельнічаць у ім зможа кожны беларускі школьнік, якому да 1 верасня 1995 года споўніцца 16 гадоў. Таму нагадаю ўмову конкурсу: трэба даслаць на наш адрас — 220050, Менск, вул.Кірава, 21 — сачыненне на англійскай і беларускай мовах. Тэма сачынення — адказ на пытанне, як уяўляе сабе яго аўтар коледж, у якім вучацца студэнты з усяго свету: што ён як прадстаўнік Беларусі можа даць гэтаму коледжу і што гэты коледж мог бы даць яму для справы, якую той абярэ сабе ў жыцці; чым ён сам дзякуючы атрыманай у коледжы адукацыі мог бы дапамагчы сваёй краіне. Пасля адбору лепшых сачыненняў мы запросім іх аўтараў да гутаркі. Тут спатрэбіцца даведка аб стане здароўя, ведамасць аб поспехах у школе за апошні год. Пад час гутаркі будзе аналізавацца агульны інтэлектуальны ўзровень абітурыентаў, ступень валодання імі беларускай ды англійскай мовамі, веданне гісторыі Беларусі ды свету, іхнія творчыя здольнасці. Будзе ўлічвацца і пазашкольная дзейнасць: заняткі спортам, мастацтвам, музыкай.

**— Тым не менш, паехаць вучыцца змогуць нямногія...**

— Сістэма адбору кандыдатаў да навучання ў коледжы мае адну асаблівасць. Тыя абітурыенты, якія не прайшлі па конкурсу, але бралі ў ім удзел, улетку могуць паехаць у адзін з міжнародных летнікаў, якія ладзіць UWC. Мінулым летам адзін з нашых навучэнцаў ездзіў у такі летнік у Летуву і пяцёра — у Польшчу. Там яны жылі разам з дзецьмі з розных краін свету, а ўвосень адбылася іх сумесная паездка па Польшчы, Германіі, Бельгіі і Галандыі. Яны наведалі Еўрапарламент, набылі шмат новых сяброў...

У гэтым годзе абмяркоўваецца магчымасць стварэння падобнага міжнароднага летніка ў Беларусі, але наш цэнтр не мае грошай на яго арганізацыю, хіба што дзякуючы гэтай публікацыі ў вашай газеце мы знойдзем фундатараў...

Але гэта ўжо адступленне ад тэмы нашай размовы. Таму я хацеў бы скончыць тым, з чаго мы пачалі: савецкая сістэма адукацыі па-ранейшаму фармуе савецкіх людзей. А свабодную і незалежную Беларусь зможа стварыць пакаленне, якое выхоўвалася ў свабодных краінах, сярод свабодных людзей. Таму сёння адукацыя, атрыманая за мяжой, стала неабходнасцю.

**Распытваў У.ПАНАДА.**

## У японцаў сваe меркаванні

«Расійская мова — сродак міжнацыянальных зносін як у Беларусі, так і па ўсім свеце» — гэткім аргументам часта карыстаюцца прапагандысты двухмоўя ў нашай краіне. Што ж, мова беларусаў сапраўды мала пашырана па-за межамі іх дзяржавы. Але ці адпавядае рэчаіснасці прыведзены вышэй аргумент аб пашыранасці ў свеце мовы нашых усходніх суседзяў?

Свой адказ на гэтае пытанне далі інжынеры японскай электратэхнічнай фірмы AKAI. Распрацаваная імі мадэль відэамагнітафона AKAI G40EDG, прыстасаваная да тэлевізійных сістэм краін Еўропы і былога СССР, можа «паразумецца» са сваім уладальнікам на любой з васьмі моў, закладзеных у яе памяць.

Каб забяспечыць свайму тавару найбольшы попыт, японцы склалі спіс моў, прынамсі адну з якіх павінна ведаць пераважная большасць насельніцтва на абшары ад Гібралтара на захадзе да Сахаліна на ўсходзе. У лік найбольш пашыраных на гэтай тэрыторыі моў увайшлі: англійская, галандская, італьянская, іспанская, польская, нямецкая і турэцкая.

Яны, а не расійская, былі прызнаны дасведчанымі японцамі найбольш распаўсюджанымі ў Еўропе. Іх, пэўна, і прапануецца вывучаць расійскамоўным аматарам відэа ў Еўропе ды былых савецкіх рэспубліках.

Замежжа

## «Прамень» — газета беларусаў Латвіі

Беларусы Латвіі выдалі другі нумар сваёй газеты «Прамень». Выданне адкрываецца артыкулам Першага сакратара Пасольства Беларусі ў Латвіі Яніны Тарасевіч, у якім яна расказвае пра тое, як можна займець магчымасць грамадзянам Латвіі і асобам без грамадзянства з'ездзіць у Рэспубліку Беларусь да сваіх сурodзічаў. Тут жа друкуецца распарадак працы Консульскага аддзела Пасольства Рэспублікі Беларусь у Латвійскай Рэспубліцы.

«Якой жа будзе наша мова беларуская?» — так называецца артыкул старшыні Камісіі Вярхоўнага Савета Беларусі па адукацыі, культуры і захаванні гістарычнай спадчыны Ніла Гілевіча, у якім ён дзеліцца думкамі пра ўдакладненне правапісу літаратурнай мовы.

Нядаўна беларусы Латвіі правялі справаздачны сход Таварыства беларускай мовы «Прамень» імя Ф.Скарыны. Нататкі з пасяджэння друкуюцца пад загалоўкам «Заззяў «Прамень» справаздачай».

Пра пяцігадовы юбілей фальклорнага ансамбля «Надзея», які плённа працуе на ніве беларушчыны ў Латвіі, расказваецца ў артыкуле Нілы Александровіч «Песнямі «Надзея» ўсім нам парадзее».

Лявон Шакавец прапануе чытачам нататкі пра Бярэзінскі запаведнік, якому ў гэтым годзе са дня заснавання спаўняецца 70 гадоў. Алёна Міцкевіч у артыкуле «Самы таленавіты і самы адукаваны ўсходні славянін» знаёміць з жыццём і творчасцю Міколы Гусоўскага.

У «Прамені» змешчана шмат іншай інфармацыі з жыцця беларусаў Латвіі і самой Беларусі.

Н.К.

## Пішыце проста і ясна!

Бюракраты і ў Амерыцы не падарунак — усё грабуць пад сябе. Нават мову, куды яны стараюцца ўвапхнуць як мага больш бюракратычных тэрмінаў. Першымі не вытрымалі такога становішча заканадаўцы штата Нью-Ёрк. Як паведамляюць газеты, менавіта яны прынялі адзін з самых незвычайных законаў у гісторыі ЗША — закон аб абавязковым ужыванні агульнапрынятай мовы ў дзелавых паперах. Да гэтай меры заканадаўцы вырашылі звярнуцца галоўным чынам таму, што вельмі ж нечытабельнымі сталі для звычайнага чалавека фінансавыя дакументы ЗША — настолькі яны складаныя ды перанасычаныя спецыяльнымі тэрмінамі. Многія амерыканцы сталі скардзіцца, што часта нават не могуць толкам уявіць, што за паперы іншым разам ім даводзіцца падпісваць. І вось вердыкт: новы закон абавязвае банкі і іншыя фінансавыя ўстановы афармляць дакументы яснай і простай мовай. А парушальнікі ў выпадку скаргі кліента мусяць праз суд заплаціць штраф ажно да дзесяці тысяч долараў.

*Мікалай КРЫЎКО – беларушчына.*
*Алена ШЧУКА – ангельшчына*

## СЛОЎНІК СІНОНІМАЎ

**ПЕРАДУ́МАЦЬ** (змяніць свой першачарговы намер, рашэнне) *Кастусь падышоў да акна, хацеў пастукаць, але перадумаў* (С.Александровіч). *Андрэйка, адважыўшыся, хацеў гукнуць незнаёмага, але перадумаў* (Пупсякоў), **РАЗДУ́МАЦЬ** *[Галя] паднялася, хацела нешта адказаць Івану, але раздумала і, развітаўшыся з Арцёмам, пайшла за дзверы...* (Ваданосаў). *Зрэшты — што яму [Цітку] да таго, у чыіх руках яно [золата] будзе. Але і тут жа раздумаў: не трэба траціць спадзяванкі самому пажывіцца* (Побан), **ПЕРАВЫ́РАШЫЦЬ** *Рыгор хацеў дачакацца Анікея. Яны згаварыліся ўдвух паехаць на спектакль. «Чаму ж яго няма?» Рыгору не хацелася думаць, што Анікей перавырашыў з гэтым* (Гартны). *Атрад ехаў на адну з будоўляў, але недзе перавырашылі і накіравалі на лесараспрацоўкі, дзе нарыхтоўвалі драўніну на тую будоўлю* (Хадкевіч), **ПЕРАРАШЫ́ЦЬ** *Рыгор вярнуўся к станку і перш хацеў прысесці ды пачакаць майстра, а пасля перарашыў і пайшоў усцяж майстэрні* (Гартны). — *Незакончанае трыванне:* **Перадумваць, раздумваць, перавырашаць, перарашаць і перарэшваць.**

*Гэты сінанімічны рад у беларускай мове складаецца выключна з прэфіксальных дзеясловаў, якіх у англійскай мове значна менш. Таму беларускія прэфіксальныя дзеясловы часта адпавядаюць англійскім адзінкам з іншай структурай. У дадзеным выпадку такімі адзінкамі з'яўляюцца ідыяматычныя спалучэнні з даволі празрыстай матывацыяй:* ***change, one's mind*** *(літаральна «змяніць сваё меркаванне»),* ***have second thoughts*** *(«займець іншыя думкі»),* ***do a u-turn*** *(«зрабіць паварот у процілеглым напрамку» — ад дарожнага знака ⤾). Апошні выраз ужываецца, калі гаворка ідзе пра ўрад або палітычную партыю і звычайна ў неадабральным сэнсе.*

**ПЕРАЖЫВА́ЦЬ** (*за каго-што* і *без дапаўнення*; быць у стане душэўнага неспакою, хвалявання ў сувязі з чым-н.) *Мне не хацелася, каб Люся перажывала за мяне* (Крыга). *Не таму, што звычку маю Заўважаць усё і ў час, — Я ж за ўсіх перажываю І за ўсё нясу адказ* (Жычка), **ХВАРЭ́ЦЬ** узмацняльнае *Душою ён [Максім Багдановіч] хварэе за тых, на кім ланцугі нядолі, таму і звяртаецца да Нёмана* (Пойка). *Усім, хто меў дачыненне да калгаса і хварэў за яго лёс, зрабілася не па сабе. Ясна, сіласу было мала* (Я.Ермаловіч). — *Параўнайце:* **Непакоіцца.**

**ПЕРАЖЫ́ТАК** (тое, што захавалася ад мінулага і не адпавядае сучаснаму стану, нормам каго-, чаго-н.) *Купала разумеў, што галоўнай прычынай сялянскай беднасці з'яўляецца тыпова сярэдневяковае землекарыстанне, наяўнасць прыгонніцкіх перажыткаў у аграрных адносінах краіны* (Івашын). *Вышэй — над выдумкамі злымі, Вышэй — над зайздрасцю дурной, Над перажыткамі сівымі І рознай цвіллю бытавой...* (Пось), **АДРЫ́ЖКА** размоўнае, фамільярнае, пагардлівае *[Салагуб:] — А «мудрагельства», што трапляецца ў яго [Хведара Ільяшэвіча] радках, ідзе ад імкнення думаць вобразамі. Таму не ўсе яго і разумеюць. Гэта ўжо насцярожвае, бо яно падобна да буржуазных замашак, мае пах багемскай адрыжкі* (Машара). *[Мікола:] — Ну давай, Вадзім, расказвай пра свае блуканні па пакутах. — Не па пакутах, а па адрыжках капіталізму, так сказаць, уласніцкіх тэндэнцыях, — усміхнуўся Вадзім* (Гаўрылкін).

*Адпаведны сінанімічны рад у англійскай мове складаюць назоўнікі* ***survival, relic, hangover****. Першыя два маюць лацінскія карані, тады як hangover з'яўляецца ўласным вытворным, характэрным для брытанскага варыянта англійскай мовы. Яго ў пэўным сэнсе можна параўнаць з беларускім сінонімам* ***адрыжка****, бо другое значэнне гэтага назоўніка «пахмелле».*

1. **ПЕРАЙМА́ЦЬ** *каго-што* (паўтараць, узнаўляць чые-н. або якія-н. дзеянні, рухі) *Усе дзяды былі калісьці дзецьмі. І мой дзядуля быў такі, як я: Па лузе бегаў і свістаў, як вецер, І пераймаў у пушчы салаўя* (Агняцвет). *Я ўжо ўмеў пераймаць свіст шпакоў, стракатанне сарокі, кукарэканне пеўня... Я пераймаў і матыў песень* (Грамовіч), **КАПІРАВАЦЬ** *каго-што Розныя вывёртванні бёдрамі, цэлая калекцыя разнастайных усмешак, якія робіць паненка, капіруюць, як хто можа, і балерыны* (Бядуля). *Паліцэйскія заходзіліся ад таго, як трапна капіраваў фельдфебеля малады паліцэйскі* (Мікуліч), **ІМІТАВА́ЦЬ** *каго-што Мікола Нікановіч, малады празаік, заўсёды элегантна, крыху пад Купалу, апрануты чалавек, весялун і перасмешнік, даволі ўдала імітаваў Купалава чытанне* (Лужанін). *Умоўны сігнал. І падаваў яго, здаецца, Галькевіч ці Шапавалаў, бо толькі яны і маглі так дакладна імітаваць воўчы голас* (Шашкоў).

2. **ПЕРАЙМА́ЦЬ** *каго-што* (рабіць у сваіх паводзінах, спосабе жыцця так, як хто-н., браць за ўзор для сябе што-н. у іншых) *Валодзька зноў быў героем. Некаторыя хадзілі за ім следам і імкнуліся ва ўсім пераймаць яго* (Карпюк). *Ці варта пераймаць чужую прыгажосць. Будзь лепей у жыцці такім, які ты ёсць* (Корбан). *Паспрабавалі вучоныя пераймаць прыроду* (Івіч), **КАПІРАВАЦЬ** *каго-што Мы прызвычаіліся да такога стылю кіраўніцтва і неўзабаве пераканалі сябе, што лепшага стылю і не прыдумаеш. Мы пачалі капіраваць свайго загадчыка. У абыходжанні паміж сабой карысталіся выключна спосабам Мяфодзія Кірылавіча* (Прокша). *Пры гэтым неабходна падкрэсліць, што беларускі паэт не механічна капіруе Някрасава або пераймае яго, а строга творча, панаватарску развівае някрасаўскі матыў «печали и гнева», сапраўды патрыятычнай, рэвалюцыйна-дэмакратычнай паэзіі* (Парчанка). *Самая элегантная жанчына не тая, якая капіруе ва ўсім моду, а тая, якая застаецца сама сабой* («Работніца і сялянка»), **МАЛПАВА́ЦЬ** *з каго-чаго* і *без дапаўнення*; размоўнае (слепа, бяздумна пераймаць) *Што ўсё бяздумна малпаваць, ты ж не малпа.*

*Англійскія сінонімы* ***to imitate, to copy, to ape****. Што датычыцца* ***to imitate*** *і* ***tocopy****, то лёгка заўважыць іх падабенства да беларускіх* ***імітаваць*** *і* ***капіраваць****, запазычаных з іншых моў. На наш погляд, вельмі цікавым з'яўляецца трэці дзеяслоў —* ***to ape****, утвораны шляхам канверсіі ад назоўніка* ***ape*** *«малпа». Калі згадаць пры гэтым не толькі беларускае* ***малпаваць****, але і рускае* ***обезьянничать****, а таксама нямецкае* ***äffen*** *( < der Affe «малпа»), то відавочным робіцца аналагічны шлях мыслення ў розных мовах.*

**ПЕРАЙНА́ЧЫЦЬ** (змяніўшы, зрабіць іншым, інакшым). *У яго [Сымона] яшчэ не было такіх памочнікаў, якія маглі б пераставіць або перакласці ў будынку,* ***перайначыць той парадак****, які ён вёў ужо не адзін год* (Чарнышэвіч). *І мусіць, так і не ўдалося б адвучыць Толіка ад гэтай нядобрай звычкі, каб не выпадак, які назаўсёды перайначыў яго характар* (Пяўданскі). *Бывае і так: прыняў чалавек рашэнне, перайначыць яго ўжо нельга, а сумненні ўсё яшчэ адольваюць — ці не выклікана гэтае рашэнне хвілінным парывам, ці не зрабіў ён недаравальную памылку?* (Хадкевіч), **ЗЫНА́ЧЫЦЬ** разм. *Адбылося ў жыцці нешта такое, што ўсё зыначыла і зняпраўдзіла* (Чорны). *Як бы чалавека ні зыначыла гора, усё роўна ў ім заўсёды знойдзецца нешта сваё, ні ў кога непаўторнае, і па ім заўсёды пазнаеш яго* (Сабаленка). *Мы з табой [песенькай] у ясных далях Нашу долю зыначым, Іскры думак распалім, Слязой шчасця заплачам!* (Лучына), **ПЕРАРАБІЦЬ** *[Надзя:] — Усё яму [брыгадзіру] не гэтак, усё хочацца перайначыць, перарабіць па-свойму* (Кулакоўскі). *Разрыў з Гражынай немінучы: пакуль што Будрыс перарабіць нічога не можа* (Андраюк). *Язэп глядзеў, як мільгае ўнізе белая хустка, і думаў: «Я яе на свой лад перараблю. Каб духу іванёнкаўскага не асталося»* (Асіпенка), **ПЕРАМЯНІЦЬ** *Тарасу ясна стала, што Андрэй праз Ніну перамяніў сваё рашэнне, і падумаў, не падацца яму туды, каб была на воку каханая дзяўчына* (Гурскі). *[Андрыян Цітавіч:] — Дык нашто я прызнаўся?.. Але хіба гэта што пераменіць у нашых адносінах?* (Марціновіч). *Разлука з маткаю, блуканне па людзях многа ў ім [Рыгоры] перамяніла, ніякая работа не пужала яго* (Гартны), **ЗМЯНІЦЬ** *Ці ж адны Мачулкі на свеце? Багата іх! І ў кожным гэтак — і не год, не два, а сотні год,— і ніхто не прыйшоў, не прыгледзеўся, каб змяніць што, перарабіць* (Галавач). *Аднак цяпер я не пазнаў суседскага двара — так тут усё змяніў, зыначыў пажар* (Сачанка), **ПАМЯНЯ́ЦЬ** разм. *Павячэраўшы, я пайшоў спаць, бо вельмі стаміўся. Усё-такі памяняць характар за адзін дзень — справа нялёгкая* (Хадановіч). *Можна смела сказаць, што з'яўленне Мінскага мора памяняла шмат якія варункі ў жыцці многіх мінчан* (Кірэенка), **ПЕРАСТА́ВІЦЬ** разм. *[Жанчына:] — Ты вазьмі сябе ў рукі, — гаварыла яна. — Чалавек, калі захоча, натуру можа пераставіць* (Чорны). — *Незакончанае трыванне:* **Перайначваць, іначыць, зыначваць, перарабляць і пераробліваць, пераменьваць і перамяняць, зменьваць і змяняць, мяняць, перастаўляць.**

*Адпаведны сінанімічны рад у англійскай мове —* ***change, alter, replace****. Усе тры дзеясловы былі запазычаны з французскай мовы. Адзін з іх, як і беларускі сінонім, таксама прэфіксальны і па сваёй структуры і значэнні састаўных элементаў (re-place) нагадвае беларускае* ***пера-ставіць****.*

## Гісторыя моваў на Беларусі

*Уладзімір СВЯЖЫНСКІ,*
*кандыдат філалагічных навук*

## Беларуская мова

*(Працяг.)*

**Літаратурная мова.** Прынята лічыць, што беларуская (старабеларуская) літаратурная мова паходзіць ад старажытнарускай — адзінай літаратурнай мовы ўсходніх славян. Аднак ці існавала адпаведная моўна-тэрытарыяльная агульнасць? Кіеўскую Русь (дарэчы, у свой час такой назвы не існавала) дзяржавай можна назваць толькі ўмоўна, бо гэта было рыхлае дзяржаўнае ўтварэнне, якое ўяўляла сабой кангламерат дастаткова аўтаномных княстваў. Не існавала ў этнічным разуменні гэтага слова адзінага народа як носьбіта гэтай мовы. Зрэшты, ужо ў ранніх пісьмовых тэкстах з тэрыторыі Беларусі адлюстраваліся асобныя рысы жывой беларускай мовы (напрыклад, пераход *в* у *ў*: уздумалъ оузяти, оу Ризе (Грамата 1229 г.); оув Озерищех, а таксама формы *хто, тое, або* (Грамата княгіні Юльяніі, 1377 г.).

Старабеларуская літаратурна-пісьмовая мова называлася рускай: Казалъ есми тиснути книгу Стго Іова Русъкымъ языкомъ (Ф.Скарына); Къ всемъ благовернымъ христианомъ языка руского (С.Будны); зъ еугліи от бога... которая з словенского абы имъ теж и их власным езыкомъ роускимъ в дроукоу вышла (В.Цяпінскі); А писаръ земъский маеть по-руску литерами и словы рускими вси листы, выписы и позвы писати (Статут Вялікага Княства Літоўскага 1566 г.). Адпаведна мова Вялікага княства Маскоўскага называлася маскоўскай (у адным са старабеларускіх актаў: **«волаючи мовою московскою»**). Так па-рознаму гэтыя мовы называлі і ў нас і за мяжой (сербскі лінгвіст Адам Багорыч, латышскі перакладчык і выдавец Ёган Райтэрс, абодва — XVII ст.). Рознасць назваў гэтых моў сведчыць аб іх нятоеснасці. Назва Белая Русь першапачаткова не мела адносін да нашай тэрыторыі. У адносінах да беларускіх зямель яна пачынае ўжывацца з XIII—XIV стст.

Усе старабеларускія помнікі па адносінах да жывой гутарковай мовы падзяляюцца на тры разрады — кніжныя, свецка-мастацкія, дзелавыя. Яны адрозніваюцца паміж сабой на ўсіх узроўнях мовы — пісьма (розны склад літар, узровень перадачы вымаўлення), граматыкі (розныя суадносіны форм кніжнай і жывой моў), лексікі (розныя суадносіны кніжных і народных слоў). Найбольшай аддаленасцю ад жывой мовы характарызуюцца рэлігійныя тэксты (жыццяпісы святых, царкоўнадыдактычная літаратура, біблейскія тэксты), бо іх пісцы добра валодалі нормамі кніжнай мовы. У свецка-мастацкіх тэкстах (летапісы, хронікі, мемуары, гістарычныя аповесці, паэтычныя творы) кніжныя нормы суіснуюць з нормамі жывой гутарковай мовы. Нарэшце, найбольш блізкімі да апошняй з'яўляюцца дзелавыя тэксты (статуты, граматы, акты), пісьмова-літаратурныя навыкі аўтараў якіх фарміраваліся ў выключна **свецкіх** абласцях эканомікі, палітыкі, права.

Паколькі ў мове старажытных пісьмовых помнікаў, як бачым, адсутнічаюць многія вызначальныя прыкметы літаратурных моў сучаснасці (галоўным чынам — адзінства нормаў), узнікла думка, што мова старажытнай пісьменнасці не можа лічыцца літаратурнай. Аднак, паколькі мова ў гэтых помніках — **не фіксацыя** народных гаворак, а значыць яна **наддыялектная** і служыць сродкам **стварэння літаратуры**, яна можа лічыцца літаратурнай. **Разыходжанне паміж разнавіднасцямі** адной мовы можа быць настолькі істотным, што ў выніку ўзнікаюць розныя мовы, што сведчыць аб складанасці працэсу станаўлення літаратурных моў (грабар і новаармянская ў Арменіі, дэмотыка і кафарэвуса ў Грэцыі, букмол і лансмол (нюношк) у Нарвегіі, гегская і тоскская мовы ў Албаніі і г.д.).

Акрамя наддыялектнасці, істотнай рысай літаратурнай мовы з'яўляецца яе **пісьмовая форма**. Практычна ў любой мове не толькі асобныя літары, але і ўвесь алфавіт утварае зусім іншую сістэму, чым склад фанем (найдрабнейшых адзінак гукавога ладу мовы, якія служаць для адрознівання слоў і формаў, (параўн. *лес* і *лёс*). Унаследаваная беларускай мова у агульнаславянскай кірыліца (аб яе ўзнікненні гл. ніжэй) была формай фіксацыі **свяшчэнных** тэкстаў. Таму недатыкальнасць свяшчэннай мовы гэтых тэкстаў пашыралася натуральна і на пісьмо. Спецыяльных дапаможнікаў па беларускаму пісьму ў эпоху Вялікага Княства Літоўскага не было (у адным акце канца XVI ст. зроблена прыпіска, што ў адпаведнасці з правіламі скарапіснага пісьма (яму папярэднічалі ўстаў і паўустаў) трэба пісаць «две строки на другой стороне вынеслейшие надъ другіе, ино дей письмо руское съ титлами се пишеть»). Навучанне грамаце вялося па псалтыру (Хощеши ли умети граматику, по-рускы говорячи, грамоту, еже добре чести и мовити учить, знайдеши в зуполной Бивлии, **Псалтыру**, чти ее (Ф.Скарына). А паколькі псалтыр, як кніга царкоўная, быў часцей за ўсё на царкоўнаславянскай мове, то архаічная арфаграфія гэтай мовы пашыралася і на старабеларускую пісьменнасць.

Ужо стараславянская пісьменнасць (пераклады Кірылы і Мяфодзія) мела шэсць літар, якія былі лішнімі пры передачы славянскага вымаўлення, але ўжываліся па традыцыі і для абазначэння лічбаў (*амега, фіта, ксі, псі*, **два** з трох *і*). Збытковасць класічнай кірыліцы для перадачы беларускага вымаўлення была яшчэ больш значнай. У выніку з ужытку ў асобных разнавіднасцях пісьменнасці выйшла яшчэ некалькі літар (так у «Гістарычных запісках» Ф.Еўлашоўскага (XVII ст.) падвойнасць літар зведзена да мінімуму). Прыстасаванне кірыліцы да беларускага вымаўлення ажыццяўлялася не толькі шляхам **выняцця** «лішніх» літар, але і шляхам **яе дапаўнення** літарамі, якіх для перадачы гэтага вымаўлення не хапала (*Е, й, в, Э, кг*).

Паходжанне і статус пісьма сталі перашкодай для перадачы ў поўнай меры асобных арфаграфічных норм беларускай мовы (аканне-яканне, дзеканне-цеканне, пераход *л* у *ў*, падаўжэнне зычных). Насуперак кансерватыўнасці пісьма частковае адлюстраванне ў пісьмовых помніках знайшлі пераход *в* і *у* ў *ў*, зацвярдзенне шыпячых, *ц* і *р*, адрозненне ў вымаўленні гука *г* у словах беларускага і іншамоўнага паходжання.

## Збіраем матэрыялы для «Крыўскай (беларускай) міфалагічнай энцыклапедыі»

*(Працяг.)*

**Асецъ.** Мінулым разам падавалася меркаванне пра асець як будыніну ці месца ў пэўным будынку, дзе складвалі ахвяры Агню і ўшаноўвалі яго. Цікавыя звесткі пра асець ёсць і ў «Расійска-крыўскім (беларускім) слоўніку» В.Ластоўскага. *«Даўней знанае было слова* ***грыдня*** *ў значэнні... нашага цяперашняга* ***«асець»****. Гэтак, чытаем у Гвагніна* (XVIст.): *«Русь Белая з поля зносіць уселякае збожжа ў чорныя (курныя) ізбы, якія яны грыднямі пазываюць, і там сушаць». Грыдня, скарочанае градарня, або як называюць месцамі асець —* ***градніца****; паводле віцебскай вымовы «грыдніца», бо ў віцебскім дыялекце* ***а*** *пераходзіць у* ***ы****».*

Спадзяёмся, што хтось з навукоўцаў патлумачыць, чаму так адбылося. Слова градніца, верагодна, можна звязаць з градам. Трэба згадаць і пра «градавую сераду» — дзень, калі маліліся, каб град не выбіў збажыну.

Нашаму меркаванню пра асець знаходзім пацвярджэнне ў «Этымалагічным слоўніку беларускай мовы». Там згадваецца пра спробу звязаць асець з старажытнаіндыйскім словам *ksayati* 'спальвае, абпальвае'. Калі ўспомнім, што ў асеці ў любым выпадку (ці з сакральнай мэтай, ці дзеля сушкі) штось палілі, то санскрыцкія, арыйскія карані нашай асеці падаюцца нам цалкам рэальнымі.

**Асілак, асілкі.** У «Мифологическом словаре» (М., 1991) надрукаваны такі артыкул: «*Асілкі, осилки, велеты,* ва ўсходнеславянскай міфалогіі велікаы-волаты. Жылі ў старажытныя часы; паводле некаторых міфаў, стваралі рэкі, насыпалі горы і т.п. Калі ж яны загардзіліся сваёй моцай ды сталі пагражаць Богу, былі ім знішчаныя. У беларускіх паданнях асілкі карчуюць дрэвы, пераварочваюць або разбіваюць камяні каменнай зброяй. Часам за каменнай сцяной, разбуранай асілкамі, знаходзілі ўкрадзеных змеем людзей. Фальклорныя матывы пра асілкаў (кіданне ў неба асілкавай булавы; перамога над змеем) дазваляюць лічыць **міфы пра асілкаў** варыянтамі міфа пра змаганне грамавіка — Пяруна з яго супраціўнікам — змеем. Назва асілак верагодна звязана з індаеўрапейскім коранем *ak'*-, «камень, каменнае неба».

У гэтым артыкуле В.І.Іванова і В.Т.Тапарова, як бачым, сцвярджаецца існаванне беларускага міфа пра асілкаў, але, папярэдне, ён (беларускі міф) аддаецца ўсім усходнім славянам. Апроч таго, мабыць, не варта збіраць у адзін хаўрус міфічных герояў асілкаў і вядомых з гістарычных дакументаў рэальных велетаў, якія заснавалі вялікае племяннное аб'яднанне надбалтыцкіх славянаў. А тое, што велеты сваімі запраўды велічнымі, фантастычнымі дзеямі спрыялі стварэнню пра іх міфа, заслугоўвае асобнай гаворкі.

Асілкі, верагодна, з'яўляюцца нашымі адпаведнікамі герояў ведыйскай і індуісцкай міфалогіі — асураў. (Суры — багі; асуры — не-багі, але магутныя, «валодаюць жыццёвай сілай»).

*(Працяг будзе.)*




**Рубрыку вядзе Лявон БАРШЧЭЎСКІ**

Хуан Рамон Хіменес (1881—1958) вярнуў іспанскай паэзіі адухоўленую прастату слова і музычнасць фальклорных інтанацый.

*Хуан Рамон Хіменес*

## ПАДЛЕТАК

*(Валіза, ужо спакаваная, чакае ў мармуровым двары)*

1

— Мама, пэўна, я забыў пра нешта.
Мама, што забыў я? Падкажы мне.

— Укладзеная ўся бялізна, сыне.

— Добра... Але ж я забыў пра нешта.
Мама, што забыў я? Падкажы мне.

— Кніжкі нейкія, мажліва, сыне?

— Не, але забыў я ўсё ж пра нешта.
Мама, што забыў я? Падкажы мне.

— Можа, свой партрэт забыў ты, сыне?

— Не! Але забыў я ўсё ж пра нешта.
Мама, што забыў я? Падкажы мне.

— Спі і ні пра што не думай, сыне...

і 2

— Мама! (Гэткі новы золак.) Голас
Твой жывы гучыць... Ды я не чую!
Напалову час мінуў, а свет наш
Выяўляе пустату такую!
Мама! Мама! Вось што бракавала —
Ўсё ўзгадаў я.
Поўнач чорная.
Вецер свішча, халадэча жорсткая...
(Вунь — вазак спявае ў брычцы.
Эўкаліпты ў далячыні,
Сонныя яшчэ, знікаюць,
Двояцца ў вячэрняй сіні,
Ў дыме цягніка. Пад мостам
Рыпынта коціць хвалі
Да прадмесцяў. Узбярэжжы
Зноў агромністыя сталі.
Паліцэйскі сын «бывайце!»
Ў вазака крычыць за спінай.
Рып пад коламі пясчынак
Увушшу стаіць няспынна.
Гнілаваты пах марыска...)

## НОЧ

Сон — нібыта мост, пралеглы
З сёння ў заўтра. Быццам сненне,
Ўнізе паскамі прабегла
Водаў ці душы трымценне.

**Пераклад з іспанскай Лявона БАРШЧЭЎСКАГА.**
(Ганарар — у фонд «Нашага слова».)

***Мама, пачытай!***

# Падарунак дзецям

*На паліцах кнігарань з'явілася новая беларускамоўная кніжка для дзяцей. На гэты раз пад адной вокладкай прадстаўлены творы адразу двух паэтаў — Алеся Бадака і Віктара Шніпа. У такой «звязцы» пісьменнікі апынуліся не па сваёй волі — выдавецтва «Юнацтва» перажывае чарговы дэфіцыт паперы, і таму падрыхтаваныя да друку рукапісы пачалі аб'ядноўваць па два, тры, чатыры і нават больш у адным выданні. Што ж, нашай літаратуры не прывыкаць да розных цяжкасцей. Затое кніжка ўсё-такі пабачыла свет — з вясёлымі каляровымі малюнкамі мастака М.Шматавай. Агульная назва выдання — «Мы купілі кракадзіла». Але кніжкі паэтаў, аб'яднаныя ў ім, маюць свае назвы: Алеся Бадака — «Хто там стукае ў акно?», Віктара Шніпа — «Сунічкі для Веранічкі». Бадай што, нездарма творы паэтаў апынуліся побач — дзіцячай паэзіі абодвух уласцівыя дабрыня, шчырасць, раскаваная фантазія.*

*Прапануем чытачам некалькі вершаў з кніжкі «Мы купілі кракадзіла».*

*Алесь БАДАК*

## Як Цімох абедаў

Ох! Ох! Ох!
Натаміўся
Наш Цімох.

Ох і натаміўся!
Ох і нарабіўся!

Што рабіў ён,
Хочаш ведаць?
Слухай:
Сеў Цімох
Абедаць.

З'еў увесь спачатку
Боршч:
Міскі тры,
А мо і больш.

Потым з'еў
Талерку кашы.
Потым выпіў
Прастаквашы.



Праглынуў
Адну катлету.
З'еў талерку
Вінегрэту.

А затым яшчэ
У рот
Ён адправіў
Бутэрброд.

Ну, а потым?
Ну, а потым
Ён запіў усё
Кампотам.

Мама кажа:
«Ты, Цімошка,
Адпачні крыху
На ложку.

Адпачні,
Мая малютка.
Ды вячэраць
Будзем хутка».

Рады наш Цімох
Паспаць.
Ды не можа ён
Устаць!

Натаміўся
За ядою,
Што не справіцца
З сабою.

Зварухнуцца нават
Цяжка.
Уздыхае
Брацік Сашка:

— Трэба нам цяпер,
Відаць,
Кран пад'ёмны
Выклікаць!

*Віктар ШНІП*

## Сунічкі для Веранічкі

На паляне
ля крынічкі
Чырванеюцца
сунічкі.
Я іх буду сабіраць,
Каб дачушку
Частаваць.
Бо яна яшчэ
Малая,
І сцяжынкі ў лес
Не знае.

Толькі кажа
Веранічка:
— Падрасту
І ля крынічкі
Ягад набяру багата,
Прынясу
для мамы з татам.

## Памідорчык-лежабока

— Лежабока!
Лежабока!! —
Раскрычалася сарока, —
Памідорчык,
Уставай!
— Ой, баліць мне галава.
— Уставай, бо сонца
ўстала! —
Побач вішня не змаўчала.
— Трэба,
Браце,
Працаваць.
Уставай жа, уставай! —
Зашумелі травы хорам.

Лежабокам быць —
Ой, сорам!
Памідорчык зразумеў
І крыху
Пачырванеў.



***Пачутае***

**Мікола КАПЫЛОВІЧ**

## Псіхатэрапія

— Вунь, бачыце, бяжыць бяздомны сабака. Падціснуў хвост, апусціў галаву. І, бачыце, спыняецца каля людзей, умольна зіркае ім у вочы. Просіць чалавечай спагады, ласкі. А некалі ж, відаць, злосны быў, нікога не падпускаў да сябе. І да свайго гаспадара, які яго карміў, даглядаў. Той, бачыце, і выгнаў яго. За кепскую службу. Цяпер ціхі зрабіўся, рахманы. Хоча, каб нехта зноў узяў на сабачую службу. Як майго суседа. Служыў начальнікам у міліцыі. Ганарлівы быў, з намі, суседзямі, не здароўкаўся. А потым яго прагналі са службы. За хабар. Цяпер з усімі за руку здароўкаецца, зазірае ў вочы нам. І ходзіць, падціснуўшы хвост. Псіхатэрапія падзейнічала.

## Смак Перамогі

— Я доўга, да васьмі гадоў, хлеб называла Перамогай. Як цяпер памятаю. Бегаем, гуляем з дзяўчынкамі каля нашай хаты. І раптам: «Тонін, Тонін прыехаў!». А Тонін — старэйшы брат Юлькі. Маёй сяброўкі. Вось мы і рванулі да яе ў хату. Бачым: салдат, медалі на грудзях. З кожнай з нас за руку здароўкаецца, у кожнай пытае, як зваць, кожную па галоўцы гладзіць. А потым і кажа: «Я вам, дзеткі, Перамогу прывёз». А мы, драбяза, што разумеем? Вылупілі на яго вочы, як бараны на новыя вароты. Нам Перамогу б тую да з'есці. Вось тады б дайшло. Ну, здагадаўся Тонін, што мы галодныя. Дастае з мяшка бохан хлеба. «Вось, — гаворыць, — дзеткі, так Перамога выглядае». Ды давай бохан на ўсіх разразаць, на лусты кроіць. Доўга я пасля таго капрызнічала. За стол сядзем, маці дасць шаймоьы, а я ў слёзы: «Перамогі хачу...»

## Венік

— Ха, узяў ды наламаў бярозавых галінак, вось табе і венік. Бяроза! Як была бяроза, так і засталася. А венік талковы ў старых мужчын, якія ў гэтай справе разбіраліся, ведаеш, што такое? Цэлая навука. Па-першае, яго нарыхтоўваюць толькі пасля Купалля. І бяроза гэтая твая толькі пачатак. А потым галінка дубовая, потым парэчкавая. Навошта? А вось для чаго. Парэчкі для паху, а дубок для шлёпання. Каб адразу ўсе трыццаць тры асалоды: і пах, і ласка, і казытанне, і пляскат. Зразумеў ты цяпер, што такое сапраўдны венік?

Але гэтага яшчэ мала — звязаў усё ў адну кучу і справе канец. Венік трэба разгарнуць лапатамі ды скласці адзін з адным барадамі, ды паклясці ў халадок пад гнёт. Пад камень ці якую калоду. Вось тады толькі венік атрымоўваецца. Насыціцца сваім сокам, звяліцца. А не так, яку нас: на жэрдку вешаць. А калі ў лазню ідуць, то што спярша з гэтым венікам робяць? Мочаць, у ваду піхаюць. А ў нас, бывала, дзед толькі сухім хвастаўся. Ён сам ад пары абмякне. Зразумеў зараз, што такое сапраўдны венік.

***Выставы***

## Без паслуг перакладчыка

У рамках Дзён культуры і мастацтва Украіны ў Нацыянальным мастацкім музеі Беларусі працуе выстава «Пяць стагоддзяў украінскага жывапісу». На выставе прадстаўлены каля пяцідзесяці карцін з калекцыі Нацыянальнага мастацкага музея Украіны. Гэта творы мастакоў XVI—XX стст. Розныя стылі, розныя плыні... Але ва ўсім бачыцца нацыянальная адметнасць. Нязмушана прыходзяць пад час прагляду і аналогіі з беларускім мастацтвам. Найўны аповяд маляўнічых карцін пра казака Мазая нагадвае дываны Алены Кіш, а пяшчотны і ясны «Партрэт жонкі» мастака мінулага стагоддзя А.М.Макрыцкага прымушае прыгадаць палотны нашага Хруцкага. А гледзячы на зімовыя пейзажы С.І.Святаслаўскага, немагчыма не ўспомніць напоўненыя гэткім жа таямнічым няпэўным снегавым святлом карціны В.К.Бялыніцкага-Бірулі...

Мова мастацтва — інтэрнацыянальная. Яна не патрабуе паслуг перакладчыка. Тым не менш, ёсць у гэтай мове свае адценні, «дыялекты», абумоўленыя гістарычным шляхам кожнага народа, яго нацыянальным характарам. Выставы, падобныя той, пра якую ідзе гаворка, служаць найлепшым сродкам для разумення нацыянальнага характару народа.



У Навагрудскі музей Адама Міцкевіча прыйшла каштоўная пасылка. Жыхарка Лондана Данута Спачынская, заўзятая аматарка творчасці вялікага паэта, прыслала ў дар томік вершаў, выдадзены пры ягоным жыцці ў 1828 годзе ў Познані.

Дырэктар музея Адама Міцкевіча Галіна Кучман з удзячнасцю прыняла гэты каштоўны экспанат.

**Фота Рамана КАБЯКА, Белінфарм.**

